

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 15 (1530) 14 КРАСАВІКА 2021 г.**

# Засеўкі на Лідчыне

Ва ўрачыстай абстаноўцы абрад "Засеўкі" (а старадаўнюю традыцыю лідскія аграрнікі выконваюць дагэтуль) сёлета прайшоў на базе сельгаспрадпрыемства "Пескаўцы".

На полі ля вёскі Лазяны сабраліся кіраўнікі і спецыялісты сельгаспрадпрыемстваў, прадстаўнікі духавенства, працаўнікі культуры, каб разам правесці традыцыйную цырымонію, якая спрыяе паспяховасці сельскагаспадарчага года.

Павіншаваў працаўнікоў сяла з пачаткам палявых работ і выказаў упэўненасць, што яны будуць паспяховымі, старшыня Лідскага райвыканкама Сяргей Ложачнік. Звяртаючыся да аграрнікаў, кіраўнік раёна акцэнтаваў увагу прысутных: вясновыя работы трэба правесці ў сціслыя агратэхнічныя тэрміны. Ярыну пасеяць да 20 красавіка, кукурузу - да 9 траўня.





- Летась надвор'е так распарадзілася, што ўжо 7 сакавіка трактары выйшлі ў поле, - узяў слова Сяргей Ложачнік. - Сёлета мы выходзім 23 сакавіка. Уся тэхніка якасна падрыхтавана да вясновa-палявых работ. А, як вядома, калі ўмела яе рыхтаваць, граматна працаваць, заўсёды будзем з хлебам. Мінулы год паказаў, што нам ёсць чым ганарыцца. У некаторых гаспадарках ураджайнасць была 200 адсоткаў да ўзроўню 2019 года. Калі раней у полі бачылі два ці нават тры культыватары, якія перад сеялкай "бегалі" для таго, каб падрыхтаваць глебу, то сёння гэта адзін культыватар, а за ім ідуць дзве сеялкі. Вядома, мы можам наракаць на нябесную канцылярыю, але спачатку самі павінны зрабіць усё, што ад нас залежыць, прынамсі - правесці работы ў палях якасна. Радасна, што вясновыя работы пачынаем з добрым настроем, поўнымі бакамі паліва, якасным пасяўным матэрыялам. Упэўнены, вынік будзе не горшы, нават лепшы за леташні.

Сяргей Ложачнік і кіраўнік КСУП "Пескаўцы" Тадэвуш Рахатка кінулі ў зямлю першыя зерні будучага ўраджаю, і толькі пасля гэтага ў поле выйшлі магутныя трактары з пасяўнымі агрэгатамі. Народны абрад "Засеўкі" даў старт вялікай усеагульнай працы. І задачы перад калектывамі гаспадарак пастаўлены не завоблачныя, а цалкам рэальныя.

- У глебе досыць вільгаці, угнаеннямі мы забяспечаны. Таксама да пачатку правядзення вясновa-палявых работ у кожнай з дзевяці сельгазарганізацый распрацавана сістэма аплаты працы і прэміявання, што дазволіць правесці работы якасна і ў тэрмін. А ў цэлым для забеспячэння выхаду на прагнозныя паказчыкі па вытворчасці прадукцыі раслінаводства нам трэба пасеяць 18 тысяч гектараў ярыны і зернебабовых культур, - распавяла намеснік старшыні, начальнік кіравання сельскай гаспадаркі і харчу Лідскага райвыканкама Вольга Наройчык.

Засеўкі аздаблялі народнымі песнямі работнікі Лідскага раённага цэнтра культуры і народнай творчасці.



*Вольга Капцевіч.*

На верхнім здымку: засеўкі пачынае старшыгня Лідскага райвыканкама Сяргей Ложачнік.

# Старшыні Рады БНР Івонцы Сурвіле - 85



11 красавіка старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонцы Сурвіле спаўнілася 85 гадоў. Івонка Сурвіла нарадзілася ў Стоўбцах, першыя гады жыцця правяла ў Засуллі, потым з бацькамі пераехала ў Баранавічы. Потым былі Усходняя Прусія, Данія, затым - Парыж, Мадрыд, Атава… Івонка Сурвіла вучылася ў Вышэйшай мастацкай школе ў Парыжы, скончыла лінгвістычнае аддзяленне Сарбонскага ўніверсітэта. Рыхтавала беларускія перадачы на іспанскім радыё ў Мадрыдзе, працавала ў Бюро перакладаў пры Федэральным урадзе Канады. Была сузаснавальніцай і старшынёй канадскага Фонду дапамогі ахвярам Чарнобыля ў Беларусі. Ад 1997 года Івонка Сурвіла - Старшыня Рады БНР.

*Радыё Рацыя.*

# Прэмію Багушэвіча атрымаў Сяргей Абламейка




30 сакавіка Беларускі ПЭН-цэнтр абвясціў вынікі Прэміі Францішка Багушэвіча, якая ўручаецца за найлепшую гістарычную прозу. Лаўрэатам стаў доктар гістарычных навук Сяргей Абламейка за кнігу "Каліноўскі і палітычнае нараджэньне Беларусі". Кніга выйшла ў серыі "Бібліятэка Свабоды". У кнізе Абламейка па-новаму паглядзеў на ролю і значэнне кіраўніка антырасейскага вызвольнага паўстання 1863-64 гадоў.

*lit-bel.org.*


9 772073 703003 21015

# 1200-ты нумар "Нашага слова", выдадзены ў Лідзе

# Лёс беларускай мовы можа быць вырашаны ў гэтым годзе

Зараз у нашай краіне ідзе гаворка аб так званай канстытуцыйнай рэформе. Хто толькі пра яе не гаворыць у СМІ, на розных форумах, сайтах і стрымах.

Адно з самых балючых пытанняў, гэта колькі дзяржаўных моваў павінна быць у будучай дэмакратычнай Беларусі. Адна ці дзве? Дарэчы. У свой час Бабарыка гаварыў пра тры мовы: беларускую, рускую і англійскую. Пасля таго, як у жніўні мінулага года да мірнага беларускага супраціву далучылася масава рускамоўнае насельніцтва нашай краіны, якое адразу прызнала нацыянальную сімволіку як сваю, але пераходзіць на беларускую мову ў іх вялікага жадання не было, яны зноў, як у далёкім ужо 1995 г., сталі на пазіцыі тых, хто пад уплывам Крамля навязаў краіне так званае двухмоўе. Наіўныя людзі верылі, што ў Беларусі будзе ідэальная сітуацыя, пра якую калісьці казаў старшыня ВС БССР Дземянцей: "У нас, хто как хаціт, тот так і гаварыт".

У выніку ж разгарнулася татальная русіфікацыя ва ўсіх сферах грамадскага жыцця. Асабліва ў адукацыі і сістэме дзяржаўнага кіравання. Гэта вельмі падабалася Крамлю, які не шкадаваў грошы і ўсяляк падтрымліваў і зараз падтрымлівае русіфікатараў. Уладзімір Пуцін вылучыў асобную канцэпцыю "русского мира", дзе ёсць асобныя праграмы падтрымкі спачатку грашыма, а потым і зброяй так званага "русскоязычного населения". Гэта ідэя легла ў абгрунтаванне анексіі Крыма і вайны на Данбасе. Цікава, што пасля ўмяшальніцтва Пуціна ў армяна-азербайджанскі канфлікт у непрызнанай армянскай рэспубліцы Арцах (Нагорны Карабах) з'явілася яшчэ адна дзяржаўная мова - руская. Такая сітуацыя зараз у Абхазіі і Паўднёвай Асеціі.

Пра дзве дзяржаўныя мовы на Беларусі зараз гавораць каманда Ціханоўскай, блогерка і палітык Вольга Карач, прыхільнікі новай партыі "Вместе" і іншыя аматары "великого и могучего языка и великой культуры".

Прыводзяць прыклады двухмоўя ў Бельгіі і Ірландыі, і нават Індыі, ужо не кажучы пра Швейцарыю. Але ў Бельгіі жывуць два народы - валоны і фламандцы, і таму ў іх дзве дзяржаўныя мовы. Кожны швейцарскі кантон мае адну мову, на якой і гаворыць. Урад Ірландыі траціць вялікія сродкі, каб хоць неяк захаваць сваю родную мову, але яна паступова знікае і асаблівай перспектывы на захаванне не мае.

А што мы маем зараз у Беларусі? Мы адна з самых монанацыянальных краін Еўропы, бо беларусы складаюць у нас больш за 80 % насельніцтва. На апошнім перапісе, нягледзячы на 25 год русіфікацыі, больш за 50 % грамадзян Беларусі назвалі роднай мовай беларускую, прычым акрамя беларусаў, гэта і палякі, і рускія, і татары, і яўрэі. Насельніцтва краіны збольшага разумее беларускую мову, бо вывучае яе ў школе.

Доўгі час крыніцай захавання беларускай мовы была наша вёска. Але зараз яна імкліва вымірае, і мы сталі адной з самых урбанізаваных нацый у Еўропе. Толькі ў Менску жыве 2 млн. чалавек. Але дзеці ў Менску і вялікіх гарадах, асабліва ў малым узросце (3-6 гадоў), ужо зусім не разумеюць беларускай мовы, а калі яны ідуць у рускамоўную школу, то беларуская мова там для іх чужая, замежная і, галоўнае - непатрэбная, бо ўсе ВНУ краіны рускамоўныя.

Цалкам рускамоўныя войскі, суды, міліцыя і амаль увесь дзяржаўны апарат.

Таму калі мы пакінем дзве дзяржаўныя мовы, то за бліжэйшыя 25 год у нас застанецца адна дзяржаўная мова, і, вядома, не беларуская.

Калі за гэты час нас не захопіць Расія, то нас чакае лёс нават не Ірландскай рэспублікі, але, бадай, лёс Белфаста (Паўночнай Ірландыі), якая належыць Брытаніі, а мова ірландцаў там у поўным заняпадзе.

Таму, калі мы хочам жыць, як у Чэхіі, Даніі, Славакіі, Галандыі, мы павінны вярнуць беларускай мове, як адзінаму фактару існавання самастойнай беларускай нацыі, статус адзінай дзяржаўнай мовы. У Канстытуцыю можна запісаць пункт, што статус выкарыстання рускай і іншых замежных моў у краіне вызначаецца асобным законам. Гэты закон у нас існуе з 1990 г. і называецца "Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь". Яго трэба ўдасканаліць і дапрацаваць. Там запісана, што на пераход да беларускай мовы патрэбна 10 год. Але павінны быць запіс, што ўсе дзяржаўныя чыноўнікі павінны здаваць пры прыходзе на службу абавязковы экзамен на веданне беларускай мовы, а на пэўных пасадах і англійскай. (Як, дарэчы, у Ірландыі)

У адпаведнасці з вынікамі апошняга перапісу з 2022 году не менш, чым 50 % усіх школ і ВНУ краіны пераводзіцца на беларускую мову навучання. Кожны беларускамоўны грамадзянін краіны мае права ва ўсіх сферах жыцця карыстацца беларускай мовай на роўных правах з рускамоўнымі грамадзянамі.

Асноўная мова дзяржаўнага апарата краіны - беларуская. Аднак на працягу 10 гадоў па пісьмовай просьбе рускамоўных грамадзян краіны яны могуць карыстацца рускай мовай у перапісцы з чыноўнікамі, у судах, банках і іншых дзяржаўных структурах, навучацца на рускай мове ў школах і ВНУ.

Закон аб мовах пасля прыняцця Канстытуцыі можна вынесці на грамадскае абмеркаванне, каб удасканаліць яго асобныя палажэнні.

*Ганаровы старшыня ТБМ Алег Трусаў.*

# Зварот да сяброў рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны

Высокашаноўныя і высокаадказныя сябры Рады ТБМ! На спецыяльным паседжанні Рады ТБМ афіцыйна заявіце народу Беларусі галоўны лозунг дзейнасці ТБМ: **"За адзіную дзяржаўную беларускую мову у Беларусі!"**

Звяртаюся да Вас шчыра з просьбай, а ні ў якім разе не з крытыкай, асэнсаваць хібную стратэгію дзейнага кіраўніцтва ТБМ па абароне беларускай мовы, прадстаўленую ў Звароце да грамадства "Наша задача - зрабіць беларускую мову адной з паўнапраўных моў аб'яднанай Еўропы" ("Наша слова" № 12, 24.03.21 г.). Еўропа ўспрымае наша беларускае канстытуцыйнае двухмоўе як роўнасць "паўнапраўных моў". Канстытуцыйнае двухмоўе ў цывілізаваных краінах успрымаецца як рэальная роўнасць. Хопіць ТБМ быць бэк-вакалістам нашаму канстытуцыйнаму двухмоўю Прэзідэнцкай вертыкалі. Час паказаў, што яно смяртэльнае для беларускай мовы. Толькі адзіная дзяржаўная беларуская мова ёсць шлях для яе выратавання. Таму галоўныя стратэгія і тактыка: **за адзіную дзяржаўную беларускую мову**!

**Абгрунтаванне.** Гвалтам накінутае на нашу вольную і незалежную дзяржаву ярмо рускамоўнай татальнай русіфікацыі падвяло беларускую мову і яе стваральнікаў і носьбітаў - беларускі народ да вымірання: лінгвацыду і этнацыду. Падаю навуковыя тэрміны: *"Лінгвацыд (літар. "мова-забойства") ці глотафагія) - комплекс мер адміністрацыйна-палітычнага, а таксама эканамічнага характару, накіраваных на выкараненне мовы, звычайна ў рэгіёнах яе спрадвечнага распаўсюду. Этнацыд (ад грэц. etnos - народ і лат. caedo - забіваю) - палітыка знішчэння нацыянальнай ідэнтычнасці, самасвядомасці народа". "Этнацыд можа праводзіцца як праз палітыку асіміляцыі, так і падчас станаўлення новых нацый праз знішчэнне ці змену самасвядомасці старых".*

Уладная Прэзідэнцкая вертыкаль адразу пасля ўсталявання сваёй улады адмяніла артыкул Канстытуцыі 1994 года аб адзінай дзяржаўнай беларускай мове і ўвяла так званае двухмоўе. Пачалося выцісканне беларускай мовы з усіх сфераў дзяржаўнага і грамадскага жыцця мірна-агрэсіўнай русіфікацыяй, самой беларускай дзяржавай, што не магчыма асэнсаваць. Вынік "двухмоўя": на сёння стан беларускай мовы катастрафічны. Беларускі народ на сваёй гістарычна-этнічнай зямлі, адзіны народ сярод народаў былога СССР, стаў бязмоўны ў сваёй роднай этнічнай беларускай мове. І адзіны народ, які пагадзіўся цярпець шалёную русіфікацыю, што праводзіць дзейная ўлада пад прыкрыццём смяртэльна-забойчага канстытуцыйнага так званага двухмоўя.

"Наша слова" апошнія гады неаднакратна гаварыла з чытачамі аб трагічным стане беларускай мовы ў Беларусі, уносіла канкрэтныя прапановы па яе выратаванні і беларусаў, як нацыю, ад вымірання. Для прыкладу артыкул "За адзіную дзяржаўную беларускую мову" ("Наша слова" № 13, 25.03.20 г.). Успомніце 13 і 14 з'езды ТБМ, на якіх уносіўся праект "Аб адзінай дзяржаўнай беларускай мове". На дзіва, ён не быў уключаны ў парадак дня з'езда.

У праекце **"Беларуская мова як адзіная дзяржаўная - галоўны гарант рэальнага суверэнітэту нашай Бацькаўшчыны"** прапаноўвалася (галоўнае):

*"а) аднавіць дзейнасць гістарычных па сваім значэнні законаў аб мовах, прынятых дэпутатамі БССР. Гэта "Закон Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Аб мовах у Беларускай ССР" (26 студзеня 1990 г.), "Пастанова Вярхоўнага Савета Беларускай ССР Аб парадку ўвядзення ў дзеянне закона Беларускай СССР Аб мовах у Беларускай ССР" (26 студзеня 1990 г.) і "Закон Аб дапаўненні артыкула 68 Канстытуцыі Беларускай ССР"(26 студзеня 1990 г.);*

*б)альбо у бліжэйшы час прыняць новы Закон аб адзінай дзяржаўнай мове - беларускай"*.

На жаль, гэты праект (да 13 і 14 з'ездаў ТБМ) ужо сёння стаў гістарычным артэфактам для ацэнкі ролі канстытуцыйнага двухмоўя і нашай (і маёй) дзейнасці-бяздзейнасці ТБМ у барацьбе за адзіную дзяржаўную беларускую мову.

Мэта адукацыйна-выхаваўчай работы ТБМ: *беларускі народ павінен мець цвёрдае перакананне, што панаванне рускай мовы ў сучаснай Беларусі, гэта не гістарычная непазбежнасць, не добраахвотны выбар рускай мовы нашымі прашчурамі, а вынік свядомай, сістэмнай дзяржаўнай русіфікатарскай палітыкі на працягу больш, чым двух стагоддзяў, ад якой, на вялікі жаль, Прэзідэнцкая вертыкаль не адышла і па-сёння.*

*Мікола Савіцкі,* *прафесар.*

# На Беларускай чыгунцы пабольшала беларускай мовы



На Беларускай чыгунцы зацверджаны тыпавыя тэксты інфармавання пасажыраў на вакзалах, станцыях і прыпынках. Як стала вядома *"Палескай Вясне"*, загад па іх зацвярджэнні падпісаў 25 лютага першы намеснік начальніка БЧ Іван Шылаў.

У дакуменце кіраўнікам аддзяленняў чыгункі загадваецца забяспечыць з першага красавіка трансляцыю абвестак на ўсіх станцыях і прыпынках на беларускай мове. У цягніках рэгіянальных ліній абвесткі па-беларуску гучалі ўжо некалькі гадоў. Цяпер гэта правіла распаўсюдзілася і на цягнікі міжрэгіянальных ліній.

# Абуджаны вясной дзівосны спеў

Вясна, Радзіма, мацярынская ласка, пяшчота, мілосць. Адвечныя тэмы, якія грэюць сэрца. Вялікдзень. Свята Дабравешчання Прасвятой Багародзіцы. Малітва за Беларусь.

Цудоўным быў 7 красавіка канцэрт лаўрэата агульнанацыянальнага конкурсу "Эўрыдыка" і іншых, спявачкі аддзела Белдзяржфілармоніі для дзяцей і юнацтва Галіны Сакольнік . У канцэрце ўзялі ўдзел Андрэй Дзяргай (кларнэт), Наталля Змітровіч (цымбалы), Таццяна Лясун (фартэпіяна), а таксама юная Віталіна, дачушка артысткі. На свяце прысутнічала кампазітар Аліна Безансон.



Публіка была ў захапленні ад узвышанай, густоўнай, мілай Галіны Сакольнік, якая правяла цудоўны канцэрт "Святло роднага дому", дзе прагучалі творы беларускіх кампазітараў - А. Безансон, Г. Гарэлавай і іншых, песні на словы Міхаіла Ясеня, Валянціна Семянякі. Мацярынская пяшчота, вясна, каханне - адвечныя тэмы, якія хвалююць слухачоў. Дыяпазон твораў спявачкі вельмі разнастайны - і духоўныя, і лірычныя, і жартаўлівыя спевы.

Даўнім з'яўляецца супрацоўніцтва Галіны Сакольнік з кампазітарам Алінай Безансон, што належыць да творцаў, якім уласцівы глыбокая захопленнасць духоўнымі тэмамі і вобразамі, пошук новых форм і жанраў, экспрэсіўнасць музычнай мовы.

*"Незабыўны аўтограф на памяць аб канцэрце ад лаўрэата агульнанацыянальнага конкурсу песні Ганны Герман "Эўрыдыка" неверагодна абаяльнай уладальніцы срэбнага голасу Галіны Сакольнік атрымала на памяць. Уладальніца чароўнага меца-сапрана так замілавана выконвае музычныя творы на вершы беларускіх паэтаў, што кранае глыбінныя струны душы і падымае да вяршынь любові і адухоўленасці, пяшчоты і нацыянальнай самабытнасці. Словы глыбокай павагі і ўдзячнасці спявачцы і ўсім артыстам, хто мае дачыненне да цудоўнага дзейства",* - адазвалася аб падзеі паэтка і мастачка, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў Святлана Раманава.

*Э. Дзвінская,*
*фота аўтара.*

# Велікодныя спевы дораць надзею

Вядомы оперны артыст Ілля Сільчукоў, лаўрэат шматлікіх міжнародных конкурсаў, які ствараў высакародныя вобразы, выконваючы галоўныя мужчынскія ролі ў пастаноўках "Іаланта", "Чароўная флейта", "Яўгеній Анегін", "Травіята", "Севільскі цырульнік", у кастрычніку быў вымушаны сысці з Нацыянальнага Акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета, але працягвае служыць сваім талентам беларускаму народу. Восенню ён запісаў моцны кліп з песняй "Магутны Божа", удзельнічаў у відэазвароце дзеячаў культуры.

Пасля паездкі да бацькоў у Злучаныя Штаты Амерыкі спадар Ілля вярнуўся ў Менск і працягвае несці духоўнае музычнае служэнне ў евангельскай царкве "Святло Ісціны". Тут артыст выступіў са спевамі на Вялікдзень разам з групай музычных служыцеляў.

Адораны артыст з'яўляецца ўладальнікам медаля Францыска Скарыны (2015), лаўрэатам III прэміі Міжнароднага конкурсу вакалістаў у г. Портафіні (Італія, 2017), дыпламантам, уладальнікам Belvedere Preis і Helikon Preis XXX Міжнароднага конкурсу вакалістаў імя Ганса Габара "Бельведэр" (Аўстрыя, Вена, 2011 г.), лаўрэатам I прэміі XXI Міжнароднага конкурсу вакалістаў імя М. Шнайдэр-Трнаўскага (Славакія, г. Трнава, 2010 г.), лаўрэатам I прэміі I Міжнароднага конкурсу вакалістаў імя М. Магамаева (Расія, г. Масква, 2010 г.) і іншых міжнародных конкурсаў.

Спадар Ілля ў мінулым годзе быў адным з герояў кнігі "ЛІНІІ СВЯТЛА", якая выходзіла ў выдавецтве " Кнігазбор". Мы гутарылі са спадаром Іллём у чэрвені мінулага года і вось зноў адбылася новая сустрэча.

*- Спадар Ілля, у Вашай сям'і захоўваюцца трывалыя традыцыі веры. Падзяліцеся, калі ласка, гэтым досведам.*

- Гэтыя традыцыі ідуць ад маёй прабабулі Марфы. У вёсцы Вязьма Магілёўскай вобласці існавала з пачатку XX стагоддзя евангельская царква. У канцы 20-тых гадоў пачаліся рэпрэсіі супраць вернікаў. Мая прабабуля захавала веру і перадала сваім чатыром дзецям. Мой прадзед Іван Барысавіч загінуў у 1941 годзе пад Смаленскам. Прабабуля Марфа не выходзіла больш замуж, выхоўвала дзяцей адна. Дзеці выраслі свядомымі хрысціянамі, надзейнымі людзьмі, у іх - шматдзетныя сем'і. Мой дзед Яўгеній Іванавіч Сільчукоў стаў пастарам евангельскай царквы ў Слуцку ў 60-тыя гады. Але ў Хрушчоўскія часы ганенні абрынуліся на вернікаў. У 1961 годзе было прынята заканадаўства пра рэлігійныя культы, іх царква была падзелена (частка яе пайшла на саступкі ўладам, а частка засталася "катакомбнай").

Дзед быў двойчы асуджаны па артыкуле "За антысавецкую прапаганду і паклёп на савецкую рэчаіснасць", па якім ён атрымаў па 5 і 10 гадоў зняволення. Дзеці яго, у тым ліку, мой тата, выраслі без бацькі. Я ўдзячны свайму дзеду за маральны прыклад. Ён зрабіў свой выбар на карысць Бога, не здрадзіў сваім перакананням. Ён жыве зараз ў Слуцку, захоўвае жывы светлы розум, пастаянна чытае Біблію, ён - яркі суразмоўца. Я памятаю, як зімовымі вечарамі мы ездзілі за горад на рэпетыцыі царкоўнага хора, як багаслужэнні разганяла міліцыя. Маму выключылі з трэццяга курса з інстытута. Цяпер гэта ўсё ў мінулым. Але я вырас у атмасферы, калі трэба мець маральныя арыентыры ў жыцці і быць гатовым за іх адказваць.



Мой дзед не азлобіўся супраць тых, хто яго прыцясняў, у ім адчуваецца ласка Божая. З яго я браў прыклад трывалых маральных паставаў. У мяне ў сям'і ёсць такія крэмені, добрыя прыклады для мяне!

*- І голас таксама дастаўся ад іх?*

- Мая бабуля Алена Мітрафанаўна Сільчукова вельмі добра спявала, і мой прапрадзед Барыс быў запявалам у палку ў Першую сусветную вайну. Ён спяваў так, што на другім баку Друці было чутно. Голас - гэта Божы дар, і трэба прыкладаць намаганні, каб развіваць яго. Я вырас на рэпетыцыях царкоўнага хору. Рэпетыцыі ладзіліся ў Воўкавічах пад Менскам, бацькі бралі мяне з сабой, ішлі пешшу два кіламетры ад станцыі. Тады я першы раз сустрэўся з музыкай. Я ўдзячны Богу за сям'ю, за бацькоў, якія аддалі мяне ў музычную школу з сямі год, падтрымлівалі маю адукацыю.

*- Бацькі далучалі Вас да Слова Божага?*

- З маленства мама чытала мне дзіцячую Біблію, гісторыі запалі ў сэрца, потым была нядзельная школа, удзел у царкоўных летніках, на якіх я пачаў чытаць Біблію самастойна. Шлях мой з Бібліяй доўжыцца ўжо 20 гадоў.

Для мяне Біблія - навігатар у жыцці, каб мець сістэму каардынат. Лічу, што кожнаму беларусу трэба прачытаць хоць раз у жыцці Біблію, і з гэтага могуць пачацца добрыя перамены. Будзе добра, калі народ звернецца да Слова Божага.

*- У Вашай біяграфіі быў эпізод, калі Вы адмовіліся ехаць з бацькамі за мяжу і засталіся ў Менску, каб вучыцца ў Кансерваторыі.*

- Так. На пачатку 2001 года бацькі павінны былі пераехаць на пастаяннае месца жыхарства ў ЗША, а ў мяне знайшоўся выдатны педагог Пётр Васільевіч Рыдзігер. Мы з ім вырашылі, што я застануся на Беларусі, каб атрымаць музычную адукацыю, бо ў іншай краіне яна была б пад пытаннем. Са мной разам былі мае бабуля і дзядуля, цёця, яны падтрымлівалі мяне, і я не быў самотным. А два мае браты з'ехалі ў ЗША і там жывуць зараз.

Спачатку я займаўся ў ліцэі, дзе быў выкладчыкам Сяргей Рыгоравіч Косцін, (мой педагог па вакале), спяваў у хоры. У 1999 годзе ён адвёз мяне на мой першы ў жыцці конкурс, на "Убельскую ластаўку". У гэтым конкурсе мяне пабачыў іншы мой педагог Адам Асманавіч Мурзіч. Па заканчэнні ліцэя я паступіў да яго ў вучэльню імя Глінкі. А пасля я скончыў Кансерваторыю ў Пятра Васільевіча Рыдзігера ў 2005 годзе і асістэнтуру ў 2007 годзе. У 2011 годзе я прайшоў моладзевую праграму Зальбурцкага музычнага фестывалю.

*- Ваша сям'я таксама шматдзетная?*

- Так, у нас трое дзяцей. Старэйшаму сыну мы хацелі даць імя, якое нясе сэнс. Лука - імя евангеліста. Лучай - той, які нясе святло. Лучана Паварoці… Дачку мы назвалі Аливія - тая, якая нясе мір. Нашаму малодшаму сыну Лаўрэну два гады. Мая жонка Таццяна - салістка Нацыянальнага акадэмічнага опернага тэатра, мае меца-сапрана. Зараз яна даглядае дзяцей.

*- Спадар Ілля, прыгадайце, калі ласка, якой была Ваша першая роля ў тэатры.*

- Калі казаць пра студэнцкі тэатр, маёй першай роляй была роля музыканта Шанара ў оперы "Багема" Пучыні. Выпускной працай з Беларускай акадэміі музыкі быў "Яўгеній Анегін". Летам 2005 года мы выступалі ў пары з Юрыем Гарадзецкім (Ленскім), нам тады было па 24 гады, і мы былі як раз ва ўзросце герояў Пушкіна.

Мне пашанцавала з тыпам голасу. Барытон - такі голас, які дазваляе выконваць ролі герояў з арыстакрытычнымі рысамі, якія звычайна носяць фракі, належаць да вышэйшага свету. Сюжэтная лінія барытона трывае да канца оперы. Тэнар у адрозненне ад яго - звычайна больш малады, імпульсіўны персанаж, заўсёды горача закаханы.

*- Вы ўдзельнічалі ў шматлікіх конкурсах салістаў за мяжой. Ці лёгка гэта было?*

- У маім жыцці было больш за 25 конкурсаў. Усе яны - частка творчага росту. У 15-ці з іх я быў у якасці прызёраў, у іншых вылятаў пасля першага туру. Крок за крокам складваўся мой музычны лёс. Каб тварыць у агульнаеўрапейскім кантэкце, трэба ездзіць, слухаць, адточваць майстэрства. Калі малады спявак хоча развівацца, ён павінен рабіць інвестыцыі ў свой талент. На конкурсах мы вучымся адзін ад аднаго.

*- Раскажыце, калі ласка, пра Ваш удзел у оперных пастаноўках за мяжой. Вы ўвасабляеце на сцэне сферу высокіх пачуццяў.*

- У мінулым годзе я наведваў Тулузу ў Францыі. Там у старэйшым тэатры Дю Капітоль, якому больш за 300 гадоў, я ўдзельнічаў у пастаноўцы "Любоўны напой" Даніцэці. Думаю, што восенню зноў удасца выйсці на сцэну ў Францыі.

*- Вы бралі чынны ўдзел у святкаваннях 200-гадовага юбілея Станіслава Манюшкі. Што гэта значыла для Вас?*

- Манюшка - наш гонар. Можна сказаць, самы знакаміты мінчук у свеце! У Менску ён вучыўся, працаваў.

Мы з Віктарам Іванавічам Скарабагатавым і Беларускай капэлай праводзілі цыкл імпрэз "Чатыры стагоддзі беларускай вакальнай традыцыі," у якім цэлая частка была прысвечана Станіславу Манюшку. З Аляксеем Фраловым у некалькі гарадах мы выконвалі праграму "Хатні спеўнік Станіслава Манюшкі".

*- Спадар Ілля, зараз артысты перажываюць няпросты час.*

- Так. Многія тэатры ў Італіі, Францыі зачынены па прычыне эпідэміі кавіду. Але дзеячы культуры ў еўрапейскіх краінах атрымліваюць дапамогу ад урадаў. Мы, на жаль, такую дапамогу не атрымліваем.

*Э. Дзвінская,*
*фота аўтара.*

*Алесь Крой*

# Геаграфія знакавых месцаў памяці пра Я. Карскага і яго родных

## Да 160 годдзя з дня народзінаў і 90 годдзя з дня смерці (1.01.1861-29.04.1931)

**1. Лаша** (Гарадзенскі раён). **Малая радзіма акадэміка**. У Лашы, дзе нарадзіўся акадэмік Яўхім Карскі ўсталявана шыльда ў памяць аб вучоным на былой школе, дзе быў адкрыты першы і адзіны ў СССР музей акадэміка 19 снежня 1964 года Апанасам Цыхуном і яго паплечнікамі, у 1992 годзе выйшаў краязнаўча-біяграфічны нарыс пра Я. Карскага "Акадэмік з вёскі Лаша". Насупраць былога музея і школы стаяў дом, дзе жылі Карскія.




***Фота 1. Лаша. Памятная шыльда на будынку, дзе была школа і музей (1964-1992) Я. Карскага***

**2. Лаша. Могілкі.** Тут пад металічным крыжом, усталяваным у 1880 годзе дзядзькам Я. Карскага краязнаўцам Іванам Карскім, пахаваны родныя Я. Карскага па лініі яго матулі Магдалены. Дзякуючы супадзенням новых звестак пра родных Я. Карскага з імёнамі на крыжы, найхутчэй тут пахаваны, бацькі Івана Карскага і родны дзед Яўхіма КарскагаАнуфрый Вікенцьевіч і бабуля Тэкля (Фёкла) Бандарэвіч, таксама дзедавы браты і іх жонкі, дзядзька акадэміка Іван Ануфрыевіч Карскі пахаваны асобна. Магчыма, знойдуцца дакументы, звязаныя непасрэдна з гэтымі пахаваннямі.



***Фота 2. Лаша. Могілкі Карскіх***



***Фота 3. Лаша. Каля царквы. Усыпальніца святара Рыгора Парчэўскага, жонкі і сына***

**Мікалаеўская царква.** Тут быў ахрышчаны маленькі Яўхім Карскі, каля царквы пахаваны святар Рыгор Парчэўскі, які правёў таксама і цырымонію шлюбу Магдалены Карскай і Фёдара Навіцкага.

Па меркаванні Аляксандра Карскага, акрамя Рыгора Парчэўскага, верагодна, на цырымоніі шлюбу прысутнічаў дзячок Ануфрый Вікенцьевіч Карскі (родны дзед Яўхіма) і айчым Фёдар Навіцкі. Не мог не прысутнічаць на такой цырымоніі і Іван Ануфрыевіч Карскі, родны брат матулі Я. Карскага - Магдалены і дзядзька Яўхіма Карскага, які служыў у Капцёўцы, побач Лашы.




***Фота 4.Знакаміты краязнавец Іван Ануфрыевіч Карскі, дзядзька Яўхіма Карскага***

**3. Лаша-Бычча-Ятра-Бярозавец-Менск-Нежын-Баранавічы-Вільня-Цырын-Міраціычы-Свіцязь.** Пасля шлюбу Магдалены Карскай і Фёдара Навіцкага сям'я Карскіх-Навіцкіх з Лашы з'ехала ў Бычу (Барысаўскі павет), а з 1866 года - у Ятру (Навагрудчына) на 13 гадоў, дзе прайшло дзяцінства будучага акадэміка, вучоба ў Ятранскім прыходскім вучылішчы, дзе святаром пры царкве і першым настаўнікам Яўхіма быў Васіль Янушэўскі. Пасля атрымання пачатковай адукацыі Я. Карскі шэсць гадоў вучыўся ў Менскай духоўнай вучэльні (да 16 гадоў) і чатыры гады ў Менскай духоўнай семінарыі (дзе вучыліся 6 гадоў). З Менска, верагодна, дабіраўся па чыгунцы да станцыі Баранавічы (піша А. Карскі ў "Біяграфіі…"), і каля 37 км (35 вёрст) ішоў, магчыма, пехатою, ці нехта падвозіў, а калі сям'я набыла каня (Яўхім у Менску даваў прыватныя ўрокі і дапамагаў сям'і), то айчым, Фёдар Мікалаевіч Навіцкі, мог прыехаць на возе на чыгуначную станцыю па Яўхіма. Калі Я. Карскі вучыўся ў духоўнай семінарыі, то яго малодшы брат пачаў вучыцца ў Менскай духоўнай вучэльні, і яны разам маглі наведваць бацькоў у час вакацый. З канца 1879 года сям'я пераехала на 11 гадоў у Бярозавец на паўночны ўсход ад Ятры, 27 км (25вёрст).

Аляксандр Карскі сцвярджае пра менскага семінарыста Я. Карскага вельмі важную рэч! Аляксандр Карскі піша: *"У тыя гады вызначаецца галоўны інтарэс (цікавасць, захапленне) Яўхіма Карскага- не латынь, не грэчаская, а менавіта родная мова ва ўсёй яе шырыне і гістарычным развіцці"* (Біяграфія Я. Карскага… Т. 1, С. 116).

У Менску, за 10 гадоў вучобы ў Я.-Карскага паступова сфармаваўся і вызначыўся галоўны інтарэс (цікавасць, захапленне). Хто яго на гэта зматываваў? Выкладчыкі, сябры семінарысты, родны брат матулі Магдалены, вядомы краязнавец Іван Карскі, ці нехта іншы? Ці ўсе патроху? Але, важна таксама іншае - гэтае захапленне, любоў да роднай мовы, сфармавалася ў маладога семінарыста Я. Карскага даволі рана, да 20 гадоў і працягвалася да канца жыцця.

Пасля 4 курсаў (класаў) духоўнай семінарыі ў 1881 годзе Я. Карскі выкарыстаў апошні шанец, каб паступіць у Нежынскі інстытут (Чарнігаўшчына), дзе за бясплатную адукацыю трэба было потым адпрацаваць па размеркаванні 1,5 гады за кожны год вучобы. Каб не паступіў, то мог бы вярнуцца і давучвацца, а на наступны год дзейнічалі б узроставыя абмежаванні. Паступаць на платную вучобу Я. Карскі сабе дазволіць не мог. З 1885 года, пасля заканчэння інстытута, Я. Карскі выкладаў у Другой Віленскай гімназіі (дзе пазней вучыўся Б. Тарашкевіч), да пераходу ў Варшаўскі ўніверсітэт, больш за 7 гадоў. На Навагрудчыне, у царкве, было выпадковае знаёмства і потым рамантычнае каханне з гімназісткай Сафіяй, наведванне з будучай нявестай ў 1886 г. Міраціч і возера Свіцязь (верагодна, ён там мог быць і раней - у дзяцінстве), атракцыйных мясцін, авеяных легендамі пра славутага паэта Адама Міцкевіча і яго каханую Марылю Верашчаку з маёнтка Туганавічы. Як бачым, славутая Навагрудчына шмат гадоў была звязана і з лёсам акадэміка Я. Карскага. Жонка акадэміка Я. Карскага Сафія Мікалаеўна Сцепужынская - таксама з Навагрудчыны, у Цырынскай царкве была ахрышчана.

Сябры Навагрудскай суполкі ТБМ запланавалі ўшанаваць імя акадэміка, звязанага з Навагрудчынай, усталяваннем памятнага знаку Я. Карскаму.

**4. Новы Двор-Гародня-Будча-Волма-Растоў на Доне-Блячын-Слабодка-Рэвель.** Айчым Я. Карскага Фёдар Навіцкі паходзіў з Новага Двара, побач Гародні. Сёння Польшча. Народжаны 31 сакавіка 1841 года, з габрэяў, у габрэйстве звалі Абрамам, ахрышчаны ў 7 гадоў у Гарадзенскім Сафійскім саборы 31сакавіка 1848 года, ужо як Фёдар, знаходзіўся пры Гарадзенскім Барыса-Глебскім кляштары на выхаванні да 1857 года. Быў фактычна бацькам Я. Карскаму. Свой зямны шлях Фёдар Навіцкі скончыў у в. Будча былога Слуцкага павета, сёння Ганцавіцкі раён Берасцейшчыны. Пахаваны каля царквы.



***Фота 5. Будча. Пахаванне Фёдара Навіцкага, айчыма Я. Карскага***

Маці Яўхіма Карскага - Магдалена з Лашы - нарадзілася ў 1841 годзе. Нарадзіла 8 дзяцей. Яўхім Карскі нарадзіўся за паўтара гады да шлюбу з Фёдарам Навіцкім. Магдалена Навіцкая памерла ў ліпені 1902 года, пахавана на могілках ў Волме. У Валмянскай царкве захаваўся запіс пра яе смерць 19 ліпеня. Сёння Волма - аграгарадок, Койданаўскі (Дзяржынскі) раён Менскай вобласці. Магіла настаўнікамі і краязнаўцамі Валмянскай школы пакуль не знойдзена з-за вырасшага на могілках лесу і хмызняку.

Пра Фёдара Навіцкага і яго дзецей даведваемся таксама з дакументаў, якія захоўваюцца па звестках Андрэя Блінца, у Будчанскай сельскай бібліятэцы:

*"**Клировые ведомости** Будчанской Преображенской церкви Слуцкого уезда 3-го Благочиннического округа Минской епархии за 1914 г.*

*Вдовец с 1902 г. 6-теро детей.*

*1-ый сын Евфимий, 53 года. Ординар. Проф. в Варшав. университете, род. 1860 г. 20 дек.*

*2-ой Николай род. 1870 г. 27 Апр. Бухгалтером (зачёркнуто, надписано - секретарём) Государственного банка в Ростове на Дону (зачёркнуто, надписано - Харькове - А.Б.)*

*3-ий Иван род. 1873 г. 11 дек. Священником в селе Блячин Слуцкого уезда.*

*4-ый Александр род. 1875 г. 20 марта. Начальник (надписано - Помощником) движения по Варшавской (зачёркнуто, надписано - Либаво-Ровен. - А.Б.) линии желез. дороги.*



***Фота 6. Брат акадэміка Я. Карскага Аляксандр Фёдаравіч Навіцкі-Карскі. Варшава. 1898 (у "НС" № 2 за 13.01.2021 быў памылкова пазначаны як Я. Карскі)***

*5-ая дочь Мария род. 1865 г. За священником в с. Слободке Мин. уезда.*

*6-ая дочь Вера род. 1878 г. 20 мая. Замужем за чиновником в г. Ревель".*

Згодна з гэтымі звесткамі, на 1914 год сястра Я. Карскага Марыя, 1865 года нараджэння, была ў шлюбе за святаром у сяле Слабодка Менскага павета. Таму яна, верагодна, не магла быць пахавана ў Лашы з надпісам на крыжы ў 1880 годзе, такая версія друкавалася ў "НС" № 3 за 20.01.2021 г. А вось новыя звесткі пра Слабодку і святароў царквы таго перыяду, звязаныя з сястрой Я. Карскага варта шукаць. Добра, калі дапамогуць адшукаць "Кліравыя ведамасці" Слабодскай царквы тамтэйшыя краязнаўцы ці даследчыкі біяграфіі Я. Карскага.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# Тыдзень пачатковых класаў

У красавіку 2021 года ў СШ №11 г. Ліды праводзіўся тыдзень пачатковых класаў "Марафон ведаў". Прадметны тыдзень праходзіў пад дэвізам: "Веды! Творчасць! Сяброўства!"



Педагогамі быў сфармуляваны прынцып правядзення прадметнага тыдня: кожнае дзіця з'яўляецца актыўным удзельнікам усіх падзей тыдня. Вучні маглі выпрабаваць свае сілы ў розных відах дзейнасці: рашаць, пісаць, спяваць, іграць на музычных інструментах, майстраваць, фантазіраваць, маляваць, прапаноўваць (прыдумляць) і разгадваць свае і ўжо існыя задачы і загадкі.



Навучэнцы 2-4 класаў прынялі ўдзел ў чытацкай канферэнцыі "Беларуская казка-розуму падказка", якую падрыхтавала і правяла бібліятэкар Тамара Зенюкевіч, у конкурсе на лепшага чытальніка "Смак роднай мовы", акцыі "Кніжкіна бальніца", этна-квізе "Пад стрэхамі прашчураў", біблія-дайджэсце "Таямніцы Дзеда- Усяведа".

Падчас прадметнага тыдня былі праведзены інтэрактыўная гульня "Хачу ўсё ведаць", конкурс-сачыненне "Новая казка",



інтэлектуальная гульня "Знаўцы прыроды", бліцтурнір "Лепшы матэматык", брэйн-рынг "Знаўцы беларускай мовы", творчая майстэрня "Умелыя ручкі".

Усе мерапрыемствы прайшлі цікава і пазнавальна, былі арыентаваны на максімальнае раскрыццё творчых і інтэлектуальных магчымасцяў кожнага вучня.

Можна з упэўненасцю сказаць, што "Тыдзень пачатковых класаў" прайшоў у атмасферы супрацоўніцтва і паказаў высокую выніковасць працы настаўнікаў пачатковых класаў. Кожны вучань знайшоў сваю нішу для самавыяўлення і атрымаў узнагароду.

***Наталля Бібліс,***
*намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце сярэдняй школы № 11 г. Ліды.*

***Навіны Германіі***

# У Гародню прывезлі разны алтар для кірхі. Яму больш за 100 гадоў

Акрамя самога алтара, для лютаранскай кірхі ў Гародню перадалі кафедру (амбон) і хрысцільню (баптыстэрый). "Новаму" разному алтару - 113 гадоў. У хуткім часе ў кірсе запусцяць і адрэстаўраваны старадаўні гадзіннік.

Алтар меркавалі прывезці ў Гародню яшчэ ў жніўні 2020 года і ўсталяваць да Дня горада. Праз пандэмію ўсё давялося адкласці на нявызначаны тэрмін. Зараз з'явілася магчымасць перасылкі, і ёй хутка скарысталіся.

- У нас няма пэўных канонаў, якім мусіць быць алтар, гэта можа быць і проста стол. Але наш храм - неагатычны, у ім прысутнічае архітэктурная прыгажосць. Таму алтар, які прывезлі сёння, для нас такі важны, - распавёў Hrodna.life пастар кірхі Уладзімір Татарнікаў.

Калі будынак вярнулі суполцы ў 1995 годзе, увесь інтэр'ер у ім быў знішчаны. Грамада спрабуе вярнуць кірсе выгляд дзейнага храма.

- Мы хочам, каб людзі, заходзячы, разумелі, што гэта намоленае месца з багатай гісторыяй. Гэта дасягаецца за кошт архітэктурных элементаў, інтэр'еру, - патлумачыў пастар.

Стогадовы алтар прывезлі ў Гародню з горада Бітэрфельд (Германія) па дабрачыннай лініі фонду "Саюз Марціна Лютара і Лютаранская царква Сярэдняй Германіі" як падарунак. Храм, з якога ён прыбыў, быў збудаваны ў той жа час, што і гарадзенская кірха, і выглядае гэтаксама. Гэта быў гарнізонны храм, а калі вайсковую частку расфармавалі, яго закрылі. Фотаздымкаў, як выглядаў алтар у гарадзенскай кірсе, не захавалася. Хутчэй за ўсё ён быў падобны да бітэрфельдскага, патлумачыў пастар.

10 красавіка алтар, амбон і баптыстэрый выгрузілі і размясцілі ў гарадзенскай кірсе. Яго ўсталююць пасля афармлення неабходных дакументаў.

Зараз груз трэба зарэгістраваць у Дэпартаменце па гуманітарнай дзейнасці пры Упраўленні справамі прэзідэнта. Гэта вызваліць лютаранскую суполку ад выплаты падаткаў за яго атрыманне. На афармленне можа сысці некалькі месяцаў. Пакуль усе часткі алтара запакаваныя і знаходзяцца ў кірсе. У ёй адкрылі адмысловую зону часовага захоўвання для гуманітарнага грузу. Інакш яго трэба захоўваць на мытні, а гэта досыць дорага.





**Крок за крокам. Што яшчэ плануюць аднавіць ў кірсе**

Кірха паступова вяртае свой гістарычны выгляд. У бліжэйшых планах - далучыць да цыферблатаў аднаўлены механізм старадаўняга гадзінніка, запусціць яго і выставіць для дэманстрацыі.

- Для нас гэта вялікая падзея - гадзіннік быў у такім стане, што мы не спадзяваліся, што ён калі-небудзь запусціцца.

Зробяць і знешнюю падсветку для будынка, плануюць заняцца ўнутраным асвятленнем. Арыгінальныя жырандолі былі ці знішчаны, ці вывезены, засталіся толькі крукі.

У кірсе хочуць таксама ўзнавіць старадаўні вітраж за алтаром - магчыма, нават у наступным годзе. Захавалася фатаграфія 1939 года, на якой бачная яго частка, пісаў "Вечерний Гродно". На вітражы быў выяўлены Ісус, які ідзе па аблоках над горадам.

- Наш лозунг - крок за крокам з Божай дапамогай. У нас багатая гісторыя - з 1796 года лютаранская царква прысутнічае ў Гародні. Старадаўнія рэчы, якія мы атрымліваем, дапамагаюць гэта прачуць, - кажа Уладзімір Татарнікаў.

**Гісторыя кірхі**

Гарадзенская царква Святога Іаана - адзіная лютаранская кірха ў Беларусі. У канцы XVIII стагоддзя кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі падарыў гарадзенскай суполцы трохпавярховы будынак карчмы, у якой лютаране нямецкага паходжання абедалі і маліліся. Будынак некалькі разоў перабудоўваўся, і сучасны выгляд кірха набыла ў 1912 годзе. У савецкі час у кірсе знаходзіўся абласны архіў. Інтэр'ер прыбралі, тэрыторыю старых могілак забудавалі.

Грамада гарадзенскіх лютаран аднавіла дзейнасць у 1993 годзе, а ў 1995 ёй вярнулі будынак кірхі. Пасля гэтага храм пачалі аднаўляць. Стогадовыя лавы прывезлі з Германіі. Рэстаўрацыя храма пачалася ў 2013 годзе і доўжылася два гады. Будынку вярнулі гістарычны колер, аднавілі 12-метровы шпіль. Механічны арган прывезлі ў 2014 годзе з Франкфурта-на-Майне. Цяпер у кірсе рэгулярна праходзяць канцэрты арганнай музыкі, паслухаць іх могуць усе ахвотныя. Лютаранская грамада ў Гародні складае каля 70 чалавек.

***АЎТАР: HRODNA.LIFE.***
***Фота: Facebook Уладзіміра Татарнікава.***

